Унутры: ЛІТАРАТУРНАЯ СТАРОНКА · ДЭПУТАЦКІЯ З'ЕЗДЫ І МІТЫНГІ · САКОЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА

# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА.

№ 27 (488) | ГОД X | 4 ЛІПЕНЯ 1965 ГОДА | ЦАНА 60 гр.

Пятро Глебка

## Летні дзень

За драўлянымі млынамі,
Дзе качаюцца масты,
Шырачэзнымі лістамі
Ахінуліся кусты.

Ад крутых віроў глыбокіх
На пясчаны перакат
Прамяністая ад спёкі
Выгінаецца рака.

Перад поплавам на градах —
Мак высокі і густы;
Там камандуе парадам
Сам сланечнік залаты.

А за рэчкаю, на правых,
На высокіх берагах
Знепакоіліся травы
У няскошаных лугах.

Луг заліўся галасамі:
Да яго ва ўсе канцы
Выйшлі стройнымі радамі
Загарэлыя касцы.

У кашулях ярка-белых,
У чырвоных паясах...
І на голас іх запела,
Адгукнулася каса.

Не пракосы, а палосы
Выжынае чыста сталь,
І павостраныя косы
Асыпаюць звонам даль.

Слава травам, слава кветкам,
Слава летнім ярким днам,
І засеяным палеткам,
І пакошаным лугам!

Слава людзям дружнай працы,
Слава ім!
Мінуць вякі, —
Будзе так жа выгінацца
Шкло празрыстае ракі,

Будзе мак цвісці на градах,
Будзе ў сэрцы з веку ў век
Несці творчай працы радасць
Непакорны чалавек.




Справаздача са зъітквання 40-годдзя Грамады ў Беластоку.

Б. Нікішюк: АРЫШТЫ, ПРАЦЭСЫ І ТУРМЫ.

А. Карпюк: РАЗВАЖАННІ НАД «ЛЕТНЯЙ АКЦЫЯЙ»

ДЗЕ ВУЧЫМСЯ?

## ГУС-ТЫ І МАГ-ЧЫ-МАСЦІ

Закончыўшы сёмы клас, я вельмі хацеў вучыцца, як кажуць, за арганома Любіў займацца сельскай гаспадаркай; марыў аб тым, каб вырасціць вялікі ды стройны сад. У Беластоку знайшоў Агародніцкую школу, але — усе пачалі смяяцца з маіх мараў, з майго выбару такой школы. Калегі пайшлі вучыцца ў Механічны тэхнікум, у добрую школу — будуць тэхнікамі, а я... мужыком, аграномам! Не вытрымаў я гэтакай насмешкі і пастанавіў не быць найгоршым і таксама здаваць экзамены ў гэты тэхнікум...

Так званыя добрыя, альбо, іначай кажучы, модныя школы трэба трактаваць, як даволі сур'ёзную перашкоду ў развіцці талентаў нашай моладзі, якая часта вучыцца не таго, што любіць. Сям'я, радня, калегі робяць акрэслены націск. У выніку такіх націскаў, прадыктаваных моднымі комплексамі, маем дачыненне з усялякімі расчараваннямі дзяўчат і хлопцаў, што не ў сілах закончыць школу, якую не любяць яны, а калі і закончаць яе, дык іх фаховыя кваліфікацыі абмяжоўваюцца найчасцей да размераў «убітага ў галаву» матэрыялу, да элементарнага практыканцтва здабытага ў школьных майстэрнях, лабараторыях. Іх фаховыя кваліфікацыі замярзаюць не абагрэтыя шчырым, сардэчным зацікаўленнем да сваёй спецыяльнасці, прафесіі. Застаецца голы тытул майстра, тэхніка ці нават інжынера, які па сутнасці з'яўляецца толькі пустою назваю ў наш рухлівы час поўны ініцыятывы.

У далейшых сваіх разважаннях падам некаторыя лікавыя даныя, якія датычаць беластоцкіх сярэдніх (паўсярэдніх) школ у 1964/65 навучальным годзе. Напрыклад, з Гарадка вучыцца ў Механічным тэхнікуме 9 асоб, у Эканамічным тэхнікуме — 6 асоб, у слесарска-механічнай школе — 5 асоб. Нікога няма з мнагалюднага Гарадка ў Сельскагаспадарчым тэхнікуме або ў Ліцэі медсясцёр. З вёскі Крушыняны (Сакольскі павет) вучыцца ў Беластоку па дзве асобы ў Механічным тэхнікуме, Мясной школе і Эканамічным тэхнікуме; па адной асобе — у Будаўніча - дарожным тэхнікуме, Гандлёвай школе, Прафесіянальнай школе ЦЗСП, Тэкстыльным тэхнікуме, прафесіянальнай тэкстыльнай школе і прафесіянальнай эканамічнай школе.

(Працяг на стар. 5)



Рыбакі.

## ІДЗЕ ЛЕТА

Хоць памалу, хоць якое але ідзе. І прыдзе час на цяжкія работы, дазарэзу і дацямна. У вёсцы тады цяжка спаткаць дарослага. Але горбамі з крыкам правальваюць дзеці. То на луг, то ў агарод, то на рэчку. Нішчаць, брудзяцца і... спатыкаюць небяспеку. Таму для застанаўлення пару далзеных з дзейнасці Таварыства прыцэляў дзяцей, якое хоча ў такіх выпадках, як вышэй апісаныя, памагчы бацькам, арганізуючы розныя формы працы з дзяцьмі. Многа тут залежыць ад добрай волі бацькоў. У кожным выпадку ТПД разам з летам ідзе на руку і на спатканне добрай волі.

На Беласточчыне маем сталых 125 прадшкольных пунктаў на вёсцы, 28 пляцаў для гульняў: штогод у сярэднім 100 дзяцінцаў у сезоне найцяжэйшым — летнім працуе на вёсцы. Але вёсак маем непараўнальна больш чым сто (больш 3000), мо' б бацькі пры дапамозе ТПД захацелі для дабра сваіх дзяцей гэтым летам арганізаваць некалькі разоў па сто дзяцінцаў? (вл)

## Вялікая радасць у Райках

Яна была ад таго, што вёска Райкі за свой вялікі ўклад працы ў грамадскія чыны атрымала ад Міністра культуры тэлевізар і асабістую падзяку ад дырэктара дэпартамента — Чэслава Калужнага. Вядомы актывіст Райкаў, Рыгор Семянюк, прыехаў у рэдакцыю і падзяліўся з намі сваёй радасцю і ўдзячнасцю міністру культуры і дырэктару Калужнаму. Рэдакцыя далучаецца да падзякі жыхароў Райкаў. (вл)

Свята песні і танца

## З Курашава, з Кляшчэляў

Музычная культура ў школах паволі ўзрастае. Такі вывад насоўваецца са Свята песні і танца ў Гайнаўцы, дзе выступіла 12 найлепшых калектываў з павета. 9 з іх былі з пачатковых вясковых школ. І гэта цешыць найбольш.

Цешыць таксама абавязковасць сярод вучняў. Напрыклад Курашава, 18 кіламетраў ад Гайнаўкі, падаў дождж, а ўсё ж такі школьны калектыў прыехаў з неразлучнай сваёй пастаўніцай — кіраўніком Валяй Красноўскай.

Было некалькі калектываў са школ сельскагаспадарчай падрыхтоўкі. Адзін з іх — з Кляшчэляў — пад кіраўніцтвам Галіны Харшляк аказаўся так дасканалым, што можна па ім цяпер спадзявацца як найлепшай працы. Калектыў даў папуры люблінскіх танцаў. Цудоўныя ўборы, у якіх закляліся ўсе колеры свету, падрыхтавалі самі вучні пад невычэрпным талентам сваёй апякункі. вл

БЕЛАВЕЖА
орган літаратурна-мастацкага
аб'яднання пры ГП БГКТ № 79

**ВІКТАР ШВЕД**

## Кастусю Каліноўскаму

*Будаўнікам Дома культуры ў Гарадку імя Кастуся Каліноўскага прысвячаю*



Бюст К. Каліноўскага ў Д. К. у Гарадку.

З бацькоўскай вёскі Мастаўляны
Мо' і не раз праз Гарадок
Ішоў з наборам палымяным
«Мужыцкай праўды» ў Беласток.

Складаў з вялікаю адвагай
Свае бунтарскія радкі,
Распальваў сэрцы пад сярмягай,
Ішлі змагацца дзецюкі.

Ішлі на панскія палацы,
За пот, за голад, мазалі.
Ішлі свабоды дамагацца,
Хлеба, праваў сваіх, зямлі.

За незалежныя краіны,
За Польшчу і за Беларусь,
За дарагі народ загінуў
Ў няроўнай барацьбе Кастусь.

Аддаў жыццё за наша шчасце,
За волю, роўныя правы.
Адкрыты нашы сэрцы насцеж
У іх Кастусь заўжды жывы.

## ЯК

Як
маўчанне ад сораму
пачын без наказу
усмешка у скрытасці духа
прыватнае захапленне
матыў адзіноцтва
рух у незнанае
позірк з-за бляску
пачутае з-за сігналу
матывы з сябе
гасціннасць для блуджэнняў
крыніц
— гэта ўсё
як паэзія
мо'
выключна гэта
паэзіяй

## БЛІЖЭЙ РЭЧЫ

Вырэзваю акно
у лістку асіны
каб спакайней глянуць
на зелень
з зелені
зялёнымі вачыма
на зелень хочу глянуць
прыму на сябе зелені рэфлекс
як веру вышэйшага сэнсу
каб зразумець
вясну з сярэдзіны зялёнасці

**Віктар Швед**

## САДОЎНІК І РУЖЫ

Садоўнік ружам абразаў галінкі,
Ножны ў руках хадзілі з дараваннем.
Ён адпачыць прысеўшы на хвілінку
На момант заглыбіўся ў разважанні.

Кусты духмяных, сакавітых ружаў
Умела навучыўся амаладжваць,
А сам такі старэнькі і нядужы,
На жаль, сябе амаладзіць не можа.



**В. АСІПОВІЧ**

## СЕНАКОСЫ

Малаткі ўжо звіняць,
Дзядзькі клепяць косы,
Хутка будзем зачынаць
Сена — сенакосы.

Пойдзем ўсе на сенажаць,
Пабяжым рэбяткі,
Пакос будзем расстрасаць,
Памагаць для маткі.

А як сено - валакно
Зложым у капіцы,
Будзем з кіслым малаком
Есці таўканіцу.

Ціха травы шалясцяць,
Серабрацца росы.
Малаткі ўвакол звіняць,
Дзядзькі клепяць косы.



**ІВАН ЧЫКВІН**

### Горад

Ціпшынёю скованы дамы
Каля аблітых светам вуліц.
А калі сонца задыміць,
Мой горад зноў як вулей.

Гадзіны лезуць па спіне,
Быццам галодныя клапы,
Каб недзе пад захад спямнець,
Каб недзе зашыцца ў копны.

Вечар спакойным крокам
Выходзіць сядзець на бульвары,
І чуецца горада локаць,
І словы, і ласку на твары.

Свет палівае вуліцы,
Дамы глытаюць пілюлі,
І горад мой. разумніца,
Як у ноч летнюю вулей.

*

Плач, дождж. у мае рыла,
пацалунак змывай гадзюкі.
Яна ў шчасце хітра ўрылася,
яна мне, як мерцвяку,
зламыла на грудзі рукі.

Чую — гарыць шчака балюча,
думкі — не прыраўняць віру ракі.
Бацькі аптымізму мяне вучаць
і вучаць там смяяцца, дзе бяда,
і сам я бачу — у мяне дзве рукі.

Асенні дождж. асенняе лісцё,
бязлітасці палошча вецер голы дуб,
а ён стаіць... І я махнуў на ўсё,
жыву як калісьці
і стаўлю новай хаты зруб.

**У НАС У ГАСЦЯХ**

## Сяргей Бандарэнка

Нарадзіўся ў 1918 годзе. Быў удзельнікам Айчыннай вайны. Працуе намеснікам дырэктара па навучальнай частцы Бераставіцкага Педвучылішча. З'яўляецца адным з актыўнейшых членаў гродзенскага літаратурнага аб'яднання пры «Гродзенскай Праўдзе». Друкаваўся ў зборніку твораў пісьменнікаў гродзенскай вобласці «Нёман» у «Літаратуры і мастацтве», была падборка яго вершаў у «Звяздзе» Пастаянна змяшчае свае творы ў «Гродзенскай Праўдзе». Прымае актыўны ўдзел у развіцці мастацкай самадзейнасці шляхам падрыхтоўкі разнастайных тэкстаў для ансамбля «Нёман» і іншых мастацкіх калектываў, за што двойчы ўзнагароджаны ганаровымі званнямі Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР. Зараз з'яўляецца старшынёй раённага аддзялення Савецка - Польскай дружбы.

Падрыхтаваў да друку зборнік вершаў у выдавецтве «Беларусь».

**Віктар Швед**

## ПРЫЗНАННЕ

Кажуць, што ў шчаслівых за плячамі
Вырастаюць крылы, каб маглі
Пакружыць яны пад аблакамі
Так, як часам кружаць жураўлі.

Можа быць... А я ў палёт не рвуся,
Хоць шчаслівы — лётаць не люблю,
Бо прывязан сэрцам к Беларусі,
Бо ўлюблёны я ў сваю зямлю.

Любы мне і вёсны тут, і зімы,
Шолах ніў і трэлі салаўя,
Бо яна — маіх бацькоў радзіма
І Радзіма светлая мая!

## Дзень добры, бор

Дзень добры, мой сасновы бор,
Прымі мае вітанне!
Я зноў прышоў пад твой шацёр
У сонечнае ранне.

Ты вабіш кожны раз мяне
Сваім ціхуткім шумам.
Тут радасць светлая імкне,
Тут ёсць раздолле думам.

Вакол на свежых верасах
Гараць каралі-росы
І сонца сушыць на ствалах
Свае праменні-косы.

Паблізу дзяцел па кары
Сваё тук-тук выводзіць,
А мне здаецца: на зары
Атрад у бой выходзіць.

Але ж даўно ў маім краі
Змоўк партызанскі покліч,
І толькі сосны пра баі
Шумяць няўмоўчна поплеч.

І ціш такая на зямлі,
Што чутны ёкат сэрца.
Здаецца, крыкні — і ўдалі
Дзяцінства адгукнецца.

Яно пакліча зноў і зноў
Па слаўных тых мясцінах,
Дзе процьма цэлая грыбоў,
Дзе спелая маліна...

Дзень добры ж, мой сасновы бор
Прымі паклон мой сёння.
Цябе люблю я з даўніх пор,
На шыры Прынямоння.

## СУНІЦЫ

Мне па звычцы дома не сядзіцца —
Выхадны праводжу ў лесе я.
Ах, як пахнуць спелыя суніцы
У бараку паблізу ручая!

Сабіраю іх я па пагорку,
Як калісь, яшчэ даўчым - даўно.
Не суніцы, а, здаецца, зоркі
Я кладу ў лубяпку па адной.

А яны так радуюць і вабяць,
Хоць нясі іх людзям напаказ.
І няма смачнейшых ягад, мабыць,
Чым суніцы водарныя ў нас.

Я люблю іх па-сялянску зроду
Сабіраць у царстве тут лясным,
Бо ў дзяцінстве меў за асалоду
Жменю ягад з хлебам аржаным.



Сяргей Бандарэнка (злева) і Віктар Швед у час святкавання Дваццацігоддзя перамогі над фашызмам у Беластоку.

 

# САКОЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА

Відаць выразную розніцу ў развіцці сельскай гаспадаркі ў паўночна - заходніх і ў паўднёва - ўсходніх грамадах Сакольшчыны. У паўднёва-ўсходніх грамадах гаспадарка больш забітая і прымітыўная. Аднак, з часам гэтыя розніцы знікаюць і будуць знікаць.

Да 1970 года будзе электрыфікавана яшчэ 65 вёсак, што абазначае электрыфікацыю ў 90 працэнтах. Практычна, толькі хутары застануцца без электрычнага святла.

Вёска перажывае перыяд інтэнсіўнай механізацыі, перад усім, палявых работ. Намечана закупіць 155 новых трактараў разам з прычапнымі машынамі, 135 малацільныя агрэгаты. Плануецца разбудова сакольскага ПОМ-у і яго філіялаў у грамадах. Варта ведаць, што мінулай зімою сельскагаспадарчыя гурткі мелі ўжо 66 трактараў, 101 малацільны агрэгат, 92 сеялкі і другіх машын. Трэба чакаць велізарнага поступу механізацыі на Сакольшчыне, а гэта абазначае нішто іншае, як павелічэнне багацця гаспадарак.

Сакольскі гандаль аж скручваецца ад спеху, каб датрымаць кроку растучым патрэбам сваіх гаспадарскіх кліентаў. Напрыклад, за апошнія гады пабудавана 23 новыя крамы. Але найважнейшае, што незвычайна расце абарот з продажу вырабаў неабходных для развіцця сельскагаспадарчай прадукцыі. У дваццаць разоў павялічыўся попыт на мінеральныя ўгнаенні, да якіх раней прыходзілася простанагаварваць гаспадароў амаль сілаю. У пятнаццаць разоў павялічыўся продаж цэменту, у 17-цаць разоў — продаж канцэнтратаў і т.п.

Калісьці сакольскія ўлады ламалі сабе галавы над тым, як пашырыць кантрактацыйную гаспадарку. Магчыма, непатрэбна нецярпліваліся яны, бо найлепшаю навукаю ёсць час. За апошнія гады кантрактацыя ўзрасла ўдвая! Гаспадары кантрактуюць каля паўтары тысячы гектараў бульбы і на паўтара разоў больш ільну (каля 2.200 гект.) У адным толькі 1963 годзе, як цяпер падлічылі, гаспадары атрымалі даходу з кантрактацыі на суму звыш сарака мільёнаў злотых. Мястэчка Крынкі і навакольныя вёскі славяцца ўжо кантрактацыяй дасканалай цыбулі, пераважна, на экспарт, заграніцу. А Крыншчына належыць да ліку тых паўднёва - ўсходніх грамад гэтага не найбагацейшага павета. Найбольш істотнай, аднак, перспектывай для будучыні многіх вёсак у гэтых аколіцах будзе моцнае развіццё гадоўлі, а гадоўлі кароў у першую чаргу, што звязана з вялікімі меліярацыйнымі работамі, якія праводзяцца ўжо на некаторых абшарах лугоў, найчасцей, міжрэчных і прылясных.

Можна сказаць, што ў выніку шматгадовай дзейнасці ветэрынарнай службы амаль цалкам ліквідавана туберкулёз быдла. Астатняя эпідэмія мела месца, здаецца, у мінулым годзе ў Крынках, потым недзе пад Крушынянамі. На тэрыторыі цэлага павета пабудавана дагэтуль больш пяцісот сіласных ям, што з'яўляецца адной з падставовых умоў паспяховага развіцця гадоўлі.

Дзе гаворка аб багацці, там выпадае сказаць пару слоў аб асвеце. У 1964/65 навучальным годзе ў сярэдніх і прафесіянальных школах Саколкі вучылася 805 дзяўчат і хлопцаў. У гадах 1962/64 сакольскі ліцэй закончыла 165 асоб, з якіх больш як палова вучыцца ў вышэйшых школах Беластока і другіх гарадоў Польшчы.

(СЯ)



Удзельнікі курсу асветы дарослых у Паўлах.

# ЗАКОНЧЫЛІ ШКОЛУ

Нядаўна адбылося ў Паўлах урачыстае заканчэнне вечаровага курсу пачатковай школы для дарослых. Курс гэты налічваў 22 удзельнікі. Усе яны акуратна прыходзілі на заняткі і таму паспяхова здалі канчатковы экзамен і атрымалі атэстаты 7 класа пачатковай школы. Цікавым з'яўляецца склад удзельнікаў курсу. Разам з моладдзю і працаўнікамі дзяржаўных устаноў за школьную парту заселі пажылыя гаспадары нашай вёскі. Было іх 10. Вось што гавораць некаторыя з іх.

— Гаспадар павінен умець карыстацца мінеральнымі ўгнаеннямі, хімічнымі сродкамі да барацьбы з пустазеллем і шкоднікамі, скамплікаванымі машынамі. І каб гэта ўсё правільна выкарыстаць, трэба ва ўсім гэтым добра разбірацца. Значыць — патрэбныя веды. І дзеля таго задумаў я вучыцца.

Гэта словы Васіля Галубоўскага, які лічыўся найлепшым навучэнцам.

(Працяг на стар. 7)

# ХТО ІМ ПАМОЖА

На пасяджэнні бацькоўскага камітэта ў Рыбалах разглядалася справа школьнай рэформы. Увага бацькоў была звернута перад усім на паляпшэнне памяшкальных умоў школы, паколькі зараз існуе тут толькі тры залы для класаў. Было гэта 16 верасня 1962 года. Прынялі пастанову: выступіць на агульны сход бацькоў з прапановай дабудовы школы. Прыняць такую пастанову, справа не простая. Перад усім трэба мець шмат грошай.

Астаткова вырашана на агульным сходзе бацькоў у 1963 годзе, што грамадскім чынам можна выканаць такую інвестыцыю. Кожны з бацькоў абавязаўся ўплаціць па 150 зл. Апрача таго, самі грамадзяне мелі звесці цэглу, жвір, каменне і іншыя матэрыялы, а таксама выканаць усе нефаховыя работы. Ініцыятыву моцна папіралі ГРН і партыйная арганізацыя. За кароткі час сабралі 16 тыс. зл., за якія купілі 6 тыс. цэглы і 900 спецыяльных пустакаў. Звезлі і апошні матэрыял, як: пясок, жвір, а нават згашана вапна.

Адным словам бацькі ўсё зрабілі, каб добра падрыхтаваць будучую васьмігодку, выказалі поўную ахвярнасць і дбайнасць. Далей чынам нічога рабіць не могуць. Згодна з адпаведнымі законамі, справу накіравалі ў Аддзел асветы і культуры ў Бельску, які меў залатвіць усе фармальнасці звязаныя з дазволам на будову.

Ужо два гады чакаюць на адказ. Цэгла і пустакі стаяць пад голым небам, а жвір і пясок распаўзаюць дзеці. У Рыбалах не хочуць ніякай фінансавай дапамогі ад павятовых улад. Запэўнілі яны нават сваіх майстроў, якія маюць адпаведныя рамесленыя карты.

Здаем справу з таго, што выклапатаць дакументацыю на будову — складаная справа. Але ці два гады, гэта незадоўга? Трэба ўлічыць, што пад голым небам псуецца цэгла і іншыя будаўляныя матэрыялы, а найважнейшае — памірае цэнная ініцыятыва бацькоў. Пара ўжо аказаць дапамогу і заняцца гэтай справай адпаведным уладам. (к)

## Спулдзельні здароўя

**У бліжэйшыя гады будзе сарганізавана дзве спулдзельні здароўя — у Рыбалах і Страблі, Бельскага павета.** (ся)

# ПОДЗВІГ ЗАЎСЁДЫ ЖЫВЫ

Было гэта ў сераду, 25 чэрвеня 1941 года. Савецкае войска з баямі адыходзіла на ўсход. Наша мясцовасць была захоплена немцамі. Новы парадак адразу адчулі людзі: гарэлі вёскі, гінулі людзі... Дубічы Царкоўныя былі спалены на другі дзень вайны.

...Вечарам у Дубічах распалажыўся вайсковы нямецкі лагер. Месца на яго немцы выбралі за царквой, над рэчкай, паблізу дарогі, што ідзе да Грабаўца. Абоз гэты складаўся з некалькіх дзесяткаў фурманак і аўтамашын, на якіх было пагружана многа награбленага сялянскага дабра. Абоз ахоўвала больш сарака гітлераўцаў. Каля царквы на вуліцы стаяла аўтамашына з трыма нямецкімі афіцэрамі (здаецца адзін быў палкоўнікам).

Усюды была пастаўлена моцная варта.

А ў лясным урочышчы «Княжына», за вёскай Крывяцічы, засталася ў тыле нейкая савецкая ваенная часць. Ноччу рушыла ў кірунку Белавежскай пушчы праз Дубічы Царкоўныя. Ад сваёй разведкі даведаліся, што ў вёсцы стаіць лагер ворага.

Раніцай, у чацвер 26 чэрвеня, толькі што сонейка ўзышло, жыхары Дубіч былі падняты з ложкаў крыкам «Ура»! Гэта савецкія байцы пусціліся ў атаку на фашысцкі лагер. Усе немцы былі выбіты да нагі, аднаму толькі ўдалося ўцячы ў суседнюю вёску Грабавец.

(Працяг на стар. 7)

# ГУСТЫ І МАГЧЫМАСЦІ

(Працяг са стар. 1)

**Няма крушынянцаў ані ў Сельскагаспадарчым тэхнікуме, ані ў Малачарскім тэхнікуме, ані ў Гаспадарчым тэхнікуме і іншых школах, дзе тэматыка навучання ў той ці іншай форме звязана з сельскай гаспадаркай, з бытам беластоцкага чалавека, пераважна, вясковага. Падобных лікавых прыкладаў маю дзесяткі і сотні (Дырэктар Цеслік сказаў, што сёлета ў Механічным тэхнікуме было семнаццаць кандыдатаў на адно месца!)**

**Усё гэта, па-праўдзе кажучы, не дзіва — нягледзячы нават на той факт, што школы звязаныя з праблематыкай сельскагаспадарчай прадукцыі маюць наогул шматлікія інтэрнаты і сур'ёзныя сумы на вучнёўскія стыпендыі, чаго нельга сказаць аб большасці іншых школ.**

**Калі так можна сказаць, барацьба супроць пагоні за «добрымі» школамі, пэўна, будзе мець востры характар у сувязі з патрэбаю разбудовы школ звязаных з сельскагаспадарчай прадукцыяй, якая ёсць і будзе падставай эканомікі Беласточчыны.**

### БЕЛЬСК ТАКСАМА ЦЭНТР

**Кідаецца ў вочы параўнальна малая колькасць вучняў з Бельскага павета — у Тэкстыльным тэхнікуме і Акушэрскай школе ўвогуле нікога няма з Бельшчыны. Больш вучыцца ў Беластоку з Гайнаўшчыны, а асабліва многа з Беластоцкага і Сакольскага паветаў (прапарцыянальна). Звязана гэта з тым, што ў Бельску і Гайнаўцы існуе шэсць сярэдніх школ (большасць іх знаходзіцца ў Бельску) і чатыры агульнаадукацыйныя ліцэі. Горад Беласток мае тры агульнаадукацыйныя ліцэі і дваццаць шэсць сярэдніх (паўсярэдніх) школ. У Саколцы існуе адзін ліцэй і адна рамесная школа, а Тэхнікум вясковага будаўніцтва знаходзіцца ў стадыі арганізацыі і разбудовы. У Міхалове, Беластоцкі павет, існуе агульнаадукацыйны ліцэй і школа механізацыі сельскай гаспадаркі.**

### ВАЖНАСЦЬ КАМУНІКАЦЫІ

**На заканчэнне варта звярнуць увагу на істотнае значэнне камунікацыі ў выбары месца сваёй вучобы (вучні масава даязджаюць да школ штодзень паяздамі ды аўтабусамі). Прывяду тут некалькі лікавых даных з тэрыторыі Бельскага павета. Вось вёска Плюцічы каля чыгуначнага паўстанку Страбля. Адсюль вучыцца ў Беластоку 11 асоб, з Рыбалаў — 9, Войшкаў — 10 (вядома, не ўсе яны даязджаюць пастаянна). Гэтыя вёскі знаходзяцца паблізу ваяводскай сталіцы. А з далёкіх вёсак, такіх як, напрыклад, Сабятына — 2 асобы, Снежак — 1, Кашалёў — 1, Зубава — 2 асобы і т.п. А з Трасцянкі ў Гайнаўскім павеце — 22 асобы; амаль палова таго, што з самой гарадской Гайнаўкі (49 асоб), ды ў два з паловай разоў больш, чым з суседняга для Трасцянкі мястэчка Нарва (9), адкуль, відаць, зручней — без перасадак — да бельскіх ці гайнаўскіх школ, ніж да далёкіх беластоцкіх. Хаця таксама без перасадак, але ўсё ж такі далёкіх...**

**Затое вялікая большасць навучэнцаў з Беластоцкага і Сакольскага паветаў практычна мае адно выйсце — ісці вучыцца ў Беласток. Спрыяе гэтаму ў некаторай меры міграцыя мясцовага насельніцтва, якая асабліва інтэнсіўнай была на тэрыторыі паўднёва - ўсходняй Сакольшчыны, і натуральныя адсюль сямейныя (беластоцкія) сувязі — браты стрыечныя і родныя, цёткі-дзядзькі ды ўсякія іншыя сваяцтвы, якія гарантуюць магчымасць мець вучнёўскую станцыю, падтрымку і т.п. Горад Саколка, апрача сваёй малой павятовай атракцыйнасці для міграцыі з вёскі, слаба павязана камунікацыйна на тэрыторыі павета, якая нас цікавіць, існуе ўсяго адна частая аўтобусная лінія ў Крынкі. (На днях адкрыта лінію ПКС у Крушыняны адлеглыя ад Крынак 10 кіламетраў).**

**З Сямяціцкага павета часта-густа значна зручней да Варшавы, Седльцаў ці Любліна, чым да Беластока. У тых гарадах існуе шматлікая пасляваенная міграцыя насельніцтва сямяціцкай вёскі (апрача Сямяціч, Гайнаўкі і Бельска)**

**САКРАТ ЯНОВІЧ**

**P.S. — У некаторых школах адбудуцца дадатковыя ўступныя экзамены ў канцы лета.**



 

